


# Наша Слова




Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 39 (303) | 26 верасня 1996 г. | Кошт -- 1000 рублёў

**НОВАЕ АБ "РОЎНАСЦІ"** *Стар.2.*

**ЮНАЦТВА — У АХВЯРУ** *Стар.4.*

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **У друку з'явілася пастанова Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў**, згодна якой рэферэндум і давыбары ў Вярхоўны Савет адбудуцца 24 лістапада. Але апошнім часам палітыкі ўсё больш гавораць пра "нулявы варыянт", пры якім ніякага рэферэндуму пакуль што не будзе. А можа і сапраўды можна абысціся без рэферэндуму?

❍ ***Рэспубліканская Асацыяцыя міжнародных маладзёжных абменаў і турызму стала заснавальнікам новай газеты*** *— "Студэнцкі веснік". Хацелася б, каб выдаўцы газеты не забываліся пра беларускую мову.*

❍ **У верасні гэтага года** Беларускаму Таварыству Чырвонага Крыжа споўнілася 75 гадоў.

❍ ***Абраны дэкан філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.*** *Ім стала доктар педагагічных навук, прафесар Ларыса Аляксандраўна Мурына. Дагэтуль Л.Мурына ўзначальвала кафедру рыторыкі і методыкі выкладання расійскай мовы і літаратуры.*

❍ **У Менску прайшоў міжнародны форум "Улада і свабода слова"**, на якім адбылося ўзнагароджанне вядомых журналістаў прэміяй і медалём Алеся Адамовіча. У галіне радыёпубліцыстыкі ўзнагароду атрымаў карэспандэнт беларускай службы "Радыё Свабода" Віталь Тарас, за тэлевізійную публіцыстыку — карэспандэнт тэлекампаніі НТБ у Беларусі Аляксандр Ступнікаў і аўтар праграмы "Беларускі дом" на БТ Людміла Хейдарава, за кінапубліцыстыку — аўтар сцэнарыя Рыгор Барадулін і рэжысёр Сяргей Пятроўскі (стваральнікі кінафільма "Забораўна", прысвечанага падзеям Другой сусветнай вайны). Прэмію ў галіне газетнай публіцыстыкі атрымаў галоўны рэдактар "Свабоды" Ігар Германчук. "Гэтыя людзі ў пэўным сэнсе героі нашай сённяшняй дэмакратыі",— так сказаў, прадстаўляючы лаўрэатаў, прэзідэнт беларускага ПЭН-клуба Васіль Быкаў.

❍ ***У "Звяздзе" за 19 верасня надрукавана гутарка з народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам "Будзе і на беларускай вуліцы свята!"*** *А для гэтага трэба: "Галоўнае — не падаць духам. Ні ў кога з патрыётаў беларушчыны не павінна быць ні разгубленасці, ні роспачы. І рукі ні ў якім разе апускаць нельга. Трэба выкарыстоўваць магчымасці, якія ёсць, і — працаваць, працаваць, працаваць! З падвоенай і з патроенай энергіяй!" І не забывацца, што мы на сваёй зямлі, мы дома.*

❍ **У друку з'явілася інфармацыя**, што нашу краіну чакае грашовая рэформа. Аднак у прэс-цэнтры Нацыянальнага банка гэтае паведамленне назвалі чарговай "вуткай". Але ўсё можа быць...

❍ ***У Нідэрландах прайшоў фестываль беларускай маладзёжнай культуры "Беларускае ўваранне ў Эйндховен".*** *Гэта першая акцыя такога маштабу за ўсю гісторыю беларуска-нідэрландскіх культурных адносін.*

❍ **У Супраслі каля Беластока прайшла** канферэнцыя нумізматаў, у якой узялі ўдзел больш за 70 аматараў з чатырох краін, у тым ліку і з Беларусі.

❍ ***Нашай краіне штогод патрэбна*** *інвестыцый не менш як 2 мільярды долараў. Але хто іх нам дасць?*

❍ **З пачатку зямельнай рэформы ў нашай краіне** створана каля 3 200 фермерскіх гаспадарак. Каля 500 з іх ужо спынілі сваё існаванне. Няма добрых эканамічных умоваў, але, відаць, і многія людзі адвучыліся працаваць на зямлі і быць сапраўднымі гаспадарамі.

❍ ***У нашай краіне жывуць*** *прадстаўнікі 123 нацыянальнасцяў. Амаль як у былым Савецкім Саюзе...*

---

*Нілу Гілевічу — 65*

# "І ўсё-такі дойдзем!"



*22 лютага г.г. у сталічным Доме літаратара адбыўся вечар паэзіі народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, прысвечаны 50-годдзю яго творчасці. Менавіта ў сорак шостым былі надрукаваны яго першыя вершы. Такім чынам, Ніл Сымонавіч сёлета двойчы юбіляр, бо 30 верасня яму "стукне" таксама і шэсцьдзесят пяць гадоў. Згадваю, што вечар прайшоў на адным дыханні. Сцэны не ўмяшчалі ўсіх жадаючых паслухаць паэта: прыхільнікі яго таленту тоўпіліся на галёрцы, цісначыся ў праходах. Пераважала моладзь. Вядучы вечара прафесар В.Рагойша паспрабаваў акрэсліць здзейсненае Гілевічам за гады яго падзвіжніцкай працы на розных дзялянках беларускай нівы: у паэзіі, у прозе, у публіцыстыцы, у фалькларыстыцы, у літаратуразнаўстве, у грамадскім жыцці, у палітыцы. У прыватнасці, ён адзначыў: "Калі гаварыць пра адраджэнне нашай культуры, нашай Беларусі-Бацькаўшчыны ўвогуле, якое запатрабавала тытанаў па сіле думкі, страсці і характару, па шматгаковасці і вучонасці, то такім чалавекам адраджэння ў XX стагоддзі, на маю думку, і стаў Ніл Гілевіч". Развіваючы думку шаноўнага прафесара, дадам, што народны паэт выдаў у свет дзесяткі кніг лірыкі, сатыры і гумару, вершаў і загадак для дзяцей, раман у вершах "Родныя дзеці", кнігу аўтабіяграфічнай прозы "Перажыўшы вайну", томік п'ес "Начлег на буслянцы", кніг дзесяць публіцыстыкі, манаграфіі па літаратуразнаўстве і фальклоры, дзесятка паўтара кніг перакладаў паэзіі і прозы, перш за ўсё з балгарскай і славенскай, але амаль і з усіх іншых славянскіх моў. Падрыхтаваў і выдаў як укладальнік і навуковы рэдактар пяць вялікіх тамоў беларускага фальклору ў сучасных запісах.*

*Напрыканцы вечара Ніл Сымонавіч адказаў на шматлікія пытанні, найбольш цікавыя з якіх прапануюцца чытачу.*

*(Адказы на пытанні чытайце на с.3.)*

---

# Нацыянальны кангрэс у абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры адбудзецца 19 кастрычніка

Групаю вядомых беларускіх палітыкаў і грамадскіх дзеячаў прыняты зварот да суайчыннікаў, у якім выказваецца занепакоенасць лёсам краіны і яе народа.

У выніку дзейнасці Прэзідэнта Беларусь апынулася на парозе нацыянальнай трагедыі. Рэферэндум, які Лукашэнка хоча правесці 7 лістапада, — гэта спроба пазбегнуць адказнасці за няўмелае кіраванне. З усіх сваіх абяцанняў, дадзеных народу напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, Лукашэнка выканаў толькі адно — правёў рэферэндум. Зусім нядаўна ён называў свае паўнамоцтвы "царскімі", а цяпер дамагаецца яшчэ большых. І толькі талерантнасць беларускага народа дазваляе яму надалей заставацца на сваёй пасадзе. Антыкрызісная праграма цалкам праваленая, а замест пошукаў выйсця з крызісу гучыць пустая балбатня, адзначана ў звароце. Яго аўтары пытаюцца ў людзей: ці сталі яны лепей жыць, ці запрацавалі заводы, ці расплаціцлася дзяржава з сялянамі?

Ініцыятары звароту адзначаюць: у Беларусі намаганнямі кіраўніка дзяржавы парушаецца палітычная стабільнасць, Прэзідэнт падзяліў народ на чужых і сваіх, на сяброў і ворагаў, ён спрабуе пасварыць краіну з суседзямі і з усім светам. На волю лёсу кінутыя нацыянальная культура і мова, адзначаюць яны. Каб супрацьстаяць напаўзанню дыктатуры, асобы, што выступілі са зваротам, палічылі неабходным правесці 19 кастрычніка Нацыянальны кангрэс і мітынг у абарону Канстытуцыі.

"Хопіць жыць у страху і нянавісці адзін да аднаго. Мы — адзіны народ, у нас адна на ўсіх Беларусь", — сказана ў канцы звароту.

*(Заканчэнне на с.3.)*

---

*Да ўрада і грамадскасці*

# Беларускаму гуманітарнаму паграджае высяленне

Мы, навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэя, вымушаны звярнуцца да шырокай грамадскасці. Беларускі гуманітарны ліцэй існуе ўжо больш за пяць год. Настаўнікі яго даюць нам, навучэнцам, выдатную падрыхтоўку не толькі па агульных школьных прадметах. У ліцэі вывучаецца логіка і паліталогія, рэлігіязнаўства і філасофія. Акрамя таго, тут засвойваюцца спецкурсы па гісторыі культуры беларускай мовы, гісторыі беларускага мураванага дойлідства, этнаграфіі і фальклоры, краязнаўстве Беларусі. Мы маем магчымасць вывучаць другую і трэцюю замежныя мовы. Але самае галоўнае тое, што Беларускі гуманітарны ліцэй сапраўды беларускі, бо навучанне ў ім вядзецца на роднай мове.

І вось цяпер мы, ліцэісты, на самым пачатку навучальнага года даведваемся, што ў нас збіраюцца адабраць будынак ліцэя, на рамонт якога мы з году ў год ахвяруем уласныя грошы. Вядома, нас не высяляць проста на вуліцу, нам дадуць нейкі іншы будынак. Але ж, па-першае, ліцэй размешчаны ў цэнтры горада, і таму ўсім навучэнцам зручна да яго дабірацца, бо некаторыя жывуць нават у Радашковічах ці на Стаўбцоўшчыне. А, па-другое,— і гэта галоўнае,— будынак, з яго шырокай лесвіцай, маленькім ліцэйскім зімовым садам, з карцінай галерэяй (малюнкі навучэнцаў!) у ім... Тут усё такое роднае, блізкае. У кожны пакой, кожны куточак укладзеныя нашы душы і душы нашых настаўнікаў. І мы нікуды адсюль не хочам перааджаць, бо гэта НАШ будынак. Мы выказваем рашучы пратэст супраць таго, каб яго адбіралі. Мы бадай што адзіная навучальная ўстанова такога тыпу на Беларусі — чаму ж гэты будынак нельга пакінуць нам, на што ён некаму спатрэбіўся? Ды і ўвогуле, чаму наша дзяржава, якая ўсімі сродкамі павінна дапамагаць развіццю і станаўленню такіх установаў, як ліцэй БГАКЦ, робіць гэтаму перашкоды? І гэты зварот мы накіроўваем не толькі на сваю карысць, але і на карысць наступных пакаленняў, на карысць дзяржавы, якая атрымае выдатных спецыялістаў у розных галінах навукі і культуры.

На Кірава, 21 сапраўды жыве дух Alma mater, і мы, ліцэісты, не аддамо будынка ні ў якім разе, мы будзем за яго змагацца.

Зварот прыняты на Радзе ліцэістаў Беларускага гуманітарнага ліцэя 10 верасня 1996г.

**ГАТКЕВІЧ Дар'я Уладзіміраўна,**
**АСІПОВІЧ Ганна Аляксандраўна,**
**БОЛБАТ Наталля Мікалаеўна.**
**Усяго 175 подпісаў.**

---

# Фальшыўка як норма палітычнай барацьбы?

Сямён Георгіевіч Шарэцкі атрымаў ліст нібыта ад Уладзіміра Жырыноўскага, які з'яўляецца лагічным працягам правакацыйнай думца-камуніста Віктара Ілюхіна і загадкавага Джорджа Мэт'ю.

Апрача брыдкай лаянкі на адрас С.Шарэцкага, аўтар паведамляе, што нядаўна да яго заходзіў амерыканскі пасол у Маскве Томас Пікерын і пакінуў для Шарэцкага ганарар за нейкую "работэнку".

Увечары таго ж дня С.Шарэцкі правёў тэрміновую прэс-канферэнцыю, на якой даў сваю ацэнку правакацыйнаму лісту і яго аўтарам. Застаецца пад пытаннем, ці мае дачыненне У.Жырыноўскі да гэтага "паслання", бо яго стыль больш уласцівы менскім "спецыялістам-правакатарам". На думку Старшыні Вярхоўнага Савета, складальнікамі ліста могуць быць і дарадцы Прэзідэнта Сяргей Посахаў і лідэр беларускіх "патрыётаў" генерал Аляксандр Баранкевіч і, вядома ж, палкоўнік Замяталін. З Жырыноўскім Шарэцкі ніколі не быў блізка знаёмы і бачыў яго толькі адзін раз, пад час сустрэчы з лідэрамі думскіх фракцый.

Сямён Шарэцкі не збіраецца пакідаць гэтую справу без адказу і спадзяецца, што сапраўдныя аўтары фальшыўкі будуць знойдзены і адкажуць па законе.

**Язэп СІНІЦКІ.**

---

# Міратворац з Усходу

18-19 верасня ў Менску знаходзіліся кіраўнікі кампартыі Расіі Генадзь Зюганаў і Васіль Старадубцаў.

Зюганаў меў сустрэчы са Старшынём ВС С.Шарэцкім, прэм'ер-міністрам М.Чыгіром, членамі Канстытуцыйнага Суда і Прэзідэнтам А.Лукашэнкам. Галоўнай мэтай паездкі Г.Зюганава, як і нядаўняга візіту кіраўніка Рады бяспекі Расіі А.Лебедзя, была спроба прымірэння дзвюх галінаў беларускай улады.

Пад час сустрэчы Зюганава з дэпутатамі Вярхоўнага Савета гаворка вялася ў асноўным вакол беларускіх праблемаў.

Дэпутатаў цікавіла ацэнка маскоўскім госцем той сітуацыі, якая склалася ў Беларусі ў сувязі з жаданнем Прэзідэнта сканцэнтраваць у сваіх руках абсалютную ўладу. Генадзь Андрэевіч быў вельмі асцярожны ў ацэнках і выказваннях, хаця і сказаў, што ўся ўлада ў адных руках — гэта не моцная ўлада. Моцная тая ўлада, якая здольная размяркаваць груз праблемаў паміж трыма галінамі. Ён выказаўся негатыўна адносна Канстытуцыі Расіі, якая прымалася праз рэферэндум, і 9 з 10 грамадзянаў не ведалі, за што галасуюць.

На заключнай прэс-канферэнцыі журналісты так і не даведаліся, якой была рэакцыя А.Лукашэнкі на міратворчую місію Г.Зюганава. Ён сказаў толькі, што выказаў Прэзідэнту сваю занепакоенасць супрацьстаяннем у беларускім грамадстве. Г.Зюганаў выказаў спадзяванне, што сітуацыя ў нашай краіне вырашыцца мірным чынам, і Менск не перажыве жахаў Масквы кастрычніка 1993 г.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

# “Ці быць школе беларускай?”

Пад такой назвай у “Нашым слове” ў снежні 1992 года быў апублікаваны артыкул пра рэарганізацыю менскай гімназіі № 20 з расійскай і беларускай мовамі навучання ў гімназію з беларускай мовай навучання (у адпаведнасці з пастановай Менгарвыканкама ад 2 ліпеня 1992 года за № 354). Да таго часу ў гімназіі ўжо працавалі паралельныя беларускамоўныя класы, дзетак для якіх рыхтаваў беларускамоўны садок № 376. З гэтымі класамі прыйшло ў дваццатую школу наша адраджэнне і наклала адбітак на яе выхаваўчую, навучальную і пазакласную дзейнасць. Карэспандэнт тады адзначыў, што гэта гімназія, як і іншыя менскія навучальныя ўстановы, стануць беларускімі пры ўмове, калі ўрад будзе ўмацоўваць дзяржаўнасць роднай мовы і не пойдзе на прыняцце закона аб дзяржаўным двухмоўі. На жаль, такое, як мы ведаем, не адбылося.

А што ж адбылося з беларускай гімназіяй? Пасля пастановы гарвыканкама два гады ўзапар (у 1992/93 і 1993/94 навучальных гадах) у школе камплектаваліся тры першыя беларускамоўныя класы з чатырох (цяпер гэтыя дзеці вучацца ў чацвёртых і пятых класах), то з пачатку 1994/95 навучальнага года (яшчэ да рэферэндуму, але з прыходам новага дырэктара) сітуацыя змянілася. У гімназіі зноў пачалі адкрываць па аднаму беларускамоўнаму класу. Сёння яна называецца Гуманітарнай гімназіяй № 20. На пачатку навучальнага года я яе зноў наведала.

Першае ўражанне ад навучальных кабінетаў і службовых памяшканняў было самае прыемнае: толькі што пафарбаваныя сцены, адрамантаваныя вокны і дзверы, чыстыя і светлыя класы, новая сантэхніка і нават, як мне сказалі, абноўлены дах. У добраўпарадкаванні гімназіі дапамагаў райвыканкам. Што яшчэ змянілася тут на першы погляд? Напрыклад, класныя выхавацелькі сталі класнымі дамамі — па прыкладу дарэвалюцыйных гімназій. Пра змены ў навучальным і выхаваўчым працэсах я папрасіла расказаць дырэктара **Святлану Сямёнаўну ВАЖНІК**.

**— Святлана Сямёнаўна, хацелася б атрымаць у Вас перш за ўсё звесткі пра беларускамоўныя класы. Колькі іх сёлета?**

— Усяго маем 45 камплектаў класаў, з іх беларускамоўных — 14. У наступным годзе першы беларускамоўны клас 10 “Г” стане выпускным. Калі рускамоўныя класы перапоўненыя, то ў паралельных беларускіх вучыцца па 13-25 гімназістаў.

**— Як вырашаецца праблема з падручнікамі?**

— У гэтым годзе мы ездзілі па гарадскіх школах і мянялі лішак на лішак. Тое-сёе павінны даатрымаць у бліжэйшы час з кнігарняў. Беларускія класы на гэты год падручнікамі забяспечаны, часткова яны будуць вучыцца па старых выданнях.

**— Як камплектаваўся ў гэтым годзе першы беларускамоўны клас?**

— Вялікага жадання ісці ў гэты клас вучыцца не назіралася. Заяў было няшмат, а вакантныя месцы запаўняліся за кошт тых, хто не быў залічаны ў расійскамоўныя класы.

**— Як можна вытлумачыць, што ў мінулыя гады ў гімназіі было па некалькі паралельных беларускамоўных класаў, а цяпер іх так паменела?**

— Класы набіраюцца ў адпаведнасці з заявамі бацькоў, у залежнасці ад таго, на якой мове яны хочуць, каб вучыліся іх дзеці.

**— У якой ступені Вы асабіста падтрымліваеце ў гімназіі беларускія па духу мерапрыемствы? Што робіце для нацыянальнага выхавання дзяцей?**

— Усё пачынаецца з планавання работы на год і на перспектыву. І што б там ні гаварылі, мы нашых гімназістаў выхоўваем цераз нацыянальную культуру, закладваючы гэта пытанне ў наш гадавы план: плануем сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, правядзенне свят беларускага народнага календара па так званым гадавым коле — у гэтай справе нам дапамагаюць бацькі. Адзначаем таксама даты знакамітых людзей зямлі беларускай, матэрыял пра іх вывешваецца на першым паверсе. Чацвёрты год у нас працуе беларускі тэатр “Купалінка”, які знаёміць гімназістаў з тэатральнай адукацыяй. У пачатковай школе дзейнічае тэатр “Батлейка”. Кіруюць творчымі калектывамі культработнік школы Грахоўская сумесна са сп.Марозам, які ўзначальвае кафедру рэжысуры ў Беларускім універсітэце культуры, а ў нас працуе па сумяшчальніцтву. Дапамагаюць ім ставіць спектаклі работнікі і студэнты гэтага ж універсітэта. У нас таксама паспяхова развіваецца так званая Малая акадэмія мастацтваў. Мы гэта называем спецыялізацыяй.

**— Спецыялізацыя замест гурткоў?**

— Так, ад гурткоў мы адышлі, перайшлі на спецыялізацыю. У школе працуюць кабінеты выяўленчага мастацтва і мастацкай працы, якімі кіруюць выдатныя спецыялісты Тамара Мікалаеўна Пугачова, член Саюза беларускіх мастакоў, і Мікалай Канстанцінавіч Фалей. Абое працуюць у дзяржаўным кампаненце і ў сістэме спецыялізацыі. Дапамагаюць ім выпускнікі Менскага мастацкага вучылішча, якія цяпер вучацца ў Мастацкай акадэміі,— сярод іх і вучні гэтых выкладчыкаў.

**— Што дае спецыялізацыя вашым дзецям?**

— Многае дае. Напрыклад, на занятках у пачатковай школе дзецям паказваюць, як правільна распісваць, размалёўваць талеркі, дошкі і іншыя прадметы, тлумачаць, чым беларускі роспіс адрозніваецца, прыкладам, ад хахламы, ад цвярскога роспісу і г.д. Выкладчык мастацкай працы вучыць разьбе па дрэву, вучыць выракляць з дрэва, гіпсу і гліны розныя прадметы як у працэсе школьных заняткаў, так і на спецыялізацыі. У гімназіі таксама вывучаецца музыка. Магчыма, мастакамі і музыкантамі нашы дзеці не стануць - у нас яны спасцігаюць толькі “азы” мастацтва,— аднак свой эстэтычны густ яны разаўюць і будуць ведаць нацыянальную культуру.

**— У якім аб’ёме ў вас даюцца веды па музыцы?**

— У аб’ёме музычнай школы. У нашым навучанні спалучаны два напрамкі: лінгвістычны і этыка-эстэтычны. Развіццё музычнага слыху садзейнічае засваенню роднай і замежнай моваў, таму мы і надаём вялікае значэнне навучанню музыцы.

**— Ці даводзіце вы да ведама бацькоў, што вучыцца ў беларускім класе прэстыжна?**

— Я на гэта вам адкажу так: курыраваць беларускамоўныя класы я паставіла свайго намесніка па навуцы Дударэнка Зою Аляксандраўну, выдзеліўшы такім чынам асобна гэты блок работы. Але вельмі хацелася б, каб грамадская падтрымка беларускамоўных класаў была большай, чым мы гэта маем на сённяшні дзень. Каб было больш зацікаўленасці ў арганізацыі беларускіх вечарын і святаў, каб адбываліся цікавыя паходы ў беларускія тэатры і музеі.

**Гутарку вяла Ірына КРЭНЬ.**

Меркаванні

# Беларусь адродзяць тыя, каму яна патрэбная

Чаму беларусы адмаўляюцца ад сваёй мовы?

Бо яна не прэстыжная — па-беларуску не гаворыць эліта — міністры, буйныя прадпрымальнікі, дырэктары заводаў, старшыні калгасаў, высокія чыны арміі, міліцыі, дзяржаўнай бяспекі ды іншыя.

Бо прэстыжнай яе не імкнецца зрабіць дзяржава.

Бо, не ўжываючыся ўсімі слаямі грамадства, яна не развіваецца, не пашырае слоўнага запасу за кошт новых тэрмінаў, паняццяў, не ўтварае неалагізмаў і слэнгаў.

Бо значная частка яе носьбітаў, не свядомых сваёй беларускасці, не ведаючых сваёй гісторыі і культуры, атаясамляе сябе з іншым народам, прыналежнасць да якога была прэстыжнай і на працягу доўгага часу гарантавала адсутнасць нацыянальнага ўціску.

Бо вызначэнне сябе як беларусаў не павышае грамадскага статуса людзей, а наадварот, стварае для іх праблемы ва ўсіх сферах жыцця. Толькі адзін прыклад: практычна спынена выданне дзіцячай літаратуры на беларускай мове. Вынікі гэтага я бачу на прыкладзе ўласнага дзіцяці: чытаючы расійскамоўныя кніжкі, яно не пашырае запасу беларускіх словаў і, нягледзячы на тое, што дома мы гаворым па-беларуску, часам мае цяжкасці, выказваючы складаныя паняцці роднай мовай.

Бо якасць зместу беларускамоўных часопісаў і газет саступае якасці расійскамоўных выданняў. Хвароба беларускамоўнага друку (ці яго стваральнікаў?) — правінцыйнасць, другаснасць. Што тычыцца беларускіх тэлепраграм, дык тут справы яшчэ горшыя.

Бо новае пакаленне беларусаў, якое магло б змяніць гэткі стан рэчаў, не мае магчымасці атрымаць добрую адукацыю на роднай мове — узровень выкладання ў беларускіх школах, пераважна вясковых, вядомы. Паступіць у ВНУ іх выпускнікам цяжка, а выкладанне пераважнай большасці дысцыплінаў у інстытутах і універсітэтах вядзецца па-расійску.

Бо тыя, хто шчыра лічыць сябе беларусамі, надалей застаюцца раз'яднанымі. А ім патрэбныя не рапарты чыноўнікаў ТБМ, а чалавечыя кантакты, стварэнне ўласнага асяроддзя.

Бо рысамі беларусаў былі і застаюцца неарганізаванасць, няўменне дамагацца свайго, неразуменне шляху да Беларусі.

Якое выйсце бачу я з гэткага становішча?

Перш за ўсё — праз прэстыжнасць беларускай культуры. Але не культуры лапцей, псеўданародных строяў і выкананых пад балалайку песень кшталту “Бывайце здаровы, жывіце багата”. І не культуры, якую спрабуе стварыць частка інтэлектуалаў, пішучы свае творы адпаведна ўзорам пісьменнікаў і філосафаў сусветна вядомых, але мала каму зразумелых.

Калі беларусы хочуць знаходзіцца на культурным узроўні не ніжэйшым, чым у іншых народаў, яны мусяць мець паўнацэнную і якасную масавую культуру для ўсіх пакаленняў. Бо Джойса ці Хайдэгера па-беларуску будуць чытаць толькі людзі, якія па-беларуску чыталі свае першыя дзіцячыя кніжкі, па-беларуску здавалі іспыты на школьны атэстат, па-беларуску абаранілі універсітэцкі дыплом. Масавая культура — гэта беларускія кампутарныя гульні і перакладзеныя на нашу мову апошнія галівудскія відэафільмы, гэта беларускія не моўна, а змястоўна прыватныя тэле- і радыёстанцыі, належныя беларускім арганізацыям беларускамоўныя школы, дзіцячыя садкі і інстытуты, гэта выдавецтвы, якія друкавалі б кнігі не “рупліўцаў”, а найбольш папулярных у свеце аўтараў у беларускім перакладзе.

Людзей сталага ўзросту, для якіх нашая мова і мы самі чужыя, ужо не перавучыць. Тым з іх, хто не імкнецца ствaрыць перашкодаў беларусам і застаецца пасіўным у час скіраваных супраць нас дзяржаваю акцый, трэба дзякаваць ужо за гэта. А маладое пакаленне грамадзян незалежнай Беларусі — гэта наша будучыня. Таму вельмі важна надаць прэстыжнасць беларускай культуры, адукацыі, выхаванню дзяцей. Бо на сябе многія ўжо махнулі рукой, спадзеючыся на лепшую будучыню хіба што для дзяцей. У нас павінны быць лепшыя дзіцячыя садкі, школы, медыя. Трэба мець беларускія пераклады лепшай дзіцячай, навучальнай, тэхнічнай і мастацкай літаратуры свету, лепшыя за існуючыя расійскамоўныя методыкі выхавання і адукацыі.

На гэта патрэбныя грошы. У сваім допісе ў “Наша слова” адзін з кіраўнікоў ТБМ прафесар Саламонаў пісаў пра некамерцыйнасць Таварыства. Але ці меў ён рацыю? Грошы — гэта ўлада. Каб эфектыўна спрыяць беларушчыне, беларуская арганізацыя павінна мець грошы. Тады можна выконваць любыя праграмы: адукацыйныя, інфармацыйныя, выдавецкія... А шаноўны прафесар прапануе іншы план дзеянняў — прасіць грошы. У каго прасіць — у Посахава, у Ціцянкова, у Замяталіна, у дзяржаўных чыноўнікаў, якія, адчуўшы калісьці новы павеў, загаварылі па-беларуску, а цяпер закрываюць беларускія школы? Прасіць нечага ў іх я не хачу, ды гэта, зрэшты, бессэнсоўна.

Таму перспектыву я бачу ў супрацоўніцтве не з чыноўнікамі, якія не маюць уласных перакананняў, і не ў закліках актывістаў Таварыства шанаваць мову, а ў людзях, асабіста зацікаўленых у беларускай справе. Сацыяльную базу ТБМ павінны ствараць людзі, гатовыя актыўна працаваць і плаціць — не баюся гэтага слова — за будучыню сваю і сваіх дзяцей. Яны, а не дзяржава забяспечаць будучыню народа. Такія людзі ў варожай беларушчыне БССР далі пачатак хвалі Адраджэння 80-х гадоў. Такія людзі здолеюць працягнуць гэтую справу сёння.

**Яўгенія КРАЎЧУК.**
г.Менск.

Але! Але!

# Новае аб “роўнасці”

**Гомельская арганізацыя Таварыства беларускай мовы накіравала Прэзідэнту і Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь адкрыты ліст-зварот абараніць годны статус мовы карэннай нацыі краіны.**

Адказ атрыманы пакуль адзіны. Ён па-свойму з'яўляецца унікальным, таму друкуецца на мове арыгінала.

Каментуе адказ сакратар Кантрольнай камісіі Беларускага Хельсінкскага камітэта **Алесь Мікалайчанка.**

*Председателю Гомельской городской организации товарищества белорусского языка*

*Уважаемые господа!*

*Нами внимательно изучены вопросы, поставленные в обращении к Президенту и Верховному Совету Республики Беларусь.*

*Ситуация, которая сложилась с белорусским языком в Беларуси, имеет под собой соответствующий правовой фундамент.*

*Ст. 17 Конституции Республики Беларусь определяет: “Государственным языком Республики Беларусь является белорусский язык.*

*Республика Беларусь обеспечивает право свободного пользования русским языком как языком межнационального общения”.*

*Некоторое снижение активности государственных органов по внедрению белорусского языка в нашу жизнь объясняется результатами майского референдума 1995 года. В отличие от вас мы не можем позволить себе признать его антидемократическим и антиконституционным, так как не имеем для этого никаких оснований.*

*В то же время мы хорошо понимаем, что есть много проблем на жестком уровне, имеют место перегибы в сокращении числа белорусскоязычных школ.*

*Видится крайне важным в рамках действующего законодательства на всех уровнях наращивать пропаганду нашего языка, истории и культуры, разъяснять гражданам Республики Беларусь важность национального возрождения, национальной идеи для решения всех экономических, политических и социальных проблем.*

*В этой работе мы готовы оказать самую действенную помощь.*

*Вместе с тем нельзя поощрять попытку лишить наших граждан права самостоятельно определять для себя язык общения.*

*С уважением*

***Зам.председателя Комиссии Верховного Совета Республики Беларусь В.НИСТЮК,***

Адразу варта адзначыць, што аўтар адказу праявіў элементарную непавагу да ўдзельнікаў канферэнцыі сяброў беларускай мовы Гомельшчыны: дэпутат і адказны функцыянер Камісіі ВС, які займаецца не толькі правамі Чалавека або сродкамі масавай інфармацыі, а яшчэ — нацыянальнымі пытаннямі, патрыётам беларушчыны нават не адказаў на іхняй жа мове!

Магчыма, сам сп.Нісцюк і не валодае дасканала беларускай мовай, але цяжка ўявіць, што ў апараце Вярхоўнага Савета няма ніводнага пісьменнага перакладчыка з расійскай на беларускую.

Вось чаму, калі чытаеш фактычна ў адпісцы намесніка старшыні Камісіі ВС прыхільнікам роднага слова: “...видится крайне важным в рамках действующего законодательства наращивать пропаганду нашего языка”, то першая думка, якая прыходзіць у галаву,— гэта: ці пра беларускую менавіта мову трывожыцца дэпутат ці яшчэ якую “нашу”?

З адказу вынікае, што спадар Нісцюк не лічыць мінулагодні травеньскі рэферэндум антыканстытуцыйным і антызаконным, хаця і прызнае, што пасля згаданага так званага ўсенароднага галасавання “...имеют место перегибы в сокращении белорусскоязычных школ”.

Нібыта У.Нісцюк не ведае, што пытанне, якое ставіць пад сумнеў статус моваў, запісаны ў апошняй Канстытуцыі нашай дзяржавы, не можа выносіцца на рэферэндум. Таму рэферэндум — антыканстытуцыйны і незаконны.

Уласна, калі захоўваць вернасць літары таго самага рэферэндуму, а размова ішла аб роўнасці статуса моваў, то беларуская мова павінна,— падкрэсліваю, павінна! — цяпер стаць не толькі дзяржаўнай, а яшчэ і мовай міжнацыянальных зносінаў: калі роўнасць, дык роўнасць!

Колькі школ беларускіх — столькі расійскіх, колькі расійскіх — столькі беларускіх!

Вышэйшыя навучальныя ўстановы цяпер трэба таксама падзяліць па моўнай прыкмеце: колькі расійскамоўных — столькі беларускамоўных і — наадварот!

Дзяржаўныя ўстановы — тое ж самае!

Што ж, калі не хочацца паважаць правы Чалавека і правы Нацыі, то можна, відаць, і так. Я ўжо не кажу пра Закон аб мовах: ён наогул праігнараваны практыкай суадносін моў у цяперашняй Беларусі, дзе назіраюцца не перагібы, як трактуе гэтую практыку У.Нісцюк, а сапраўдны этнацыд: калі ўлады пад рознымі дайпрычынамі вынішчаюць беларусаў як самастойны этнас. Этнацыд зразумелы ў выпадку панавання каланіялізму, тады зразумелыя і дзеянні ўладаў краіны-метраполіі да падкаланіяльнага народа. Наш, беларускі, этнацыд спараджаецца ўласнымі ўладамі ў адносінах да ўласнага народа. І ў гэтым злачыннае манкурцтва маючых уладу, у гэтым іхняя антынацыянальная сутнасць.

Як паказвае гісторыя, шмат у якіх выпадках этнацыд перарастаў у генацыд (напрыклад, адносіны фашыстоўскіх уладаў да габрэяў у Германіі).

Вельмі шкада, што сацыял-дэмакрат У.Нісцюк нават не разумее таго, чаму лёс беларускай мовы, культуры і нацыі трывожыць яго калегу — аграрыя, Старшыню ВС С.Шарэцкага. У цяперашнім становішчы беларускай мовы ў школах не бачыць справядлівасці і роўнасці дэпутат-камуніст В.Шчукін, які неаднойчы публічна выказваўся на гэты конт.

Так што чаго-чаго, а вось такога адказу — паспешлівага, юрыдычна бездапаможнага, адказу, які больш падобны на канцылярскую адпіску, я ад палітыка Нісцюка не чакаў. Няўжо не зразумела: сёння дэпутат не абараняе мову беларусаў, а заўтра не ў стане будзе абараніць сябе самога як законна абранага прадстаўніка народа.

*Нілу Гілевічу — 65*

# "І ўсё-такі дойдзем!"

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1)*

**— Скажыце, калі ласка, хто з пісьменнікаў меў на Вас найбольшы ўплыў?**

— Моцны ўплыў аказалі нашы класікі: Багушэвіч, Багдановіч, Колас з яго "Новай зямлёй", Купала і некаторыя сучаснікі, якія былі для мяне жывымі класікамі.

**— Як Вы глядзіце на праблему пакаленняў у літаратуры?**

— Я помню, як на першай рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў у 1947 годзе я, у чаканні пасяджэння, хадзіў каля Дома палітасветы ў Менску і ўбачыў, як з машыны выйшаў Якуб Колас. І мне ён здаўся тады вельмі старым чалавекам. Неяк я ўспомніў пра гэта і падлічыў, што ў сорак сёмым яму было роўна столькі, колькі мне сёння. А я не лічу сябе вельмі старым! Так што гэта розніца ў пакаленнях — адносная. Я даражыў дружбай з тымі, з кім пазнаёміўся даўно і каго ўжо сярод нас няма: з Танкам, Панчанкам, Пысіным, Караткевічам. Я радуюся, што сёння яшчэ ў страі і прыйшлі на мой вечар мае сябры, старэйшыны нашай літаратуры і паэзіі: Янка Брыль і Сяргей Грахоўскі, мае равеснікі Вярцінскі і Макаль, і трошкі маладзейшыя за мяне Зуёнак і Бураўкін. Так што я не ў крыўдзе, што ў мяне мала людзей, да якіх я магу звярнуцца як да блізкіх сяброў — з надзеяй, з вераю. Дзякаваць Богу.

**— Калі мы ўбачым першыя тамы Вашага "Збору твораў"?**

— Хай бы лепш вы не падавалі гэтую запіску, дарагія мае, бо адразу так ударылі па самым балючым. На добры лад першы том павінен быў даўно выйсці.

**— Якія Вашы думкі аб сучаснай моладзі?**

— Я веру ў моладзь і мне ёсць што моладзі сказаць. І каб у мяне спыталі, што самае галоўнае Вы хацелі б моладзі сказаць, я і раз, і другі, і пяты, і спрасонку нават скажу: "Помніце, ужо на вас кладзецца адказнасць за лёс нашай незалежнай дзяржавы. Помніце, я сказаў Вам гэта".

**— Ніл Сымонавіч, якія ўражанні ў Вас засталіся аб сустрэчы з "першацветаўцамі"?**

— Я задаволены сустрэчай з вамі. Яна засведчыла, што ў літаратуру ідзе сур'ёзная моладзь. Час тут многае вызначыць.

**— Скажыце, як Вы адносіцеся да вакальна-інструментальнага калектыву "Сябры"?**

— Я добра да іх адношуся. Яны столькі беларускіх песень выканалі, у тым ліку і маіх. Калі ж увогуле гаварыць аб эстрадзе, то ў мяне ёсць прэтэнзіі да ўсіх нашых эстрадных калектываў, артыстаў. Мяне засмучае часам празмерна лёгкі падыход да песні. Многія думаюць, што стварыць песню, выканаць песню так лёгка і так проста. Я хацеў бы, каб і да самых вясёлых жанраў, да самых лёгкіх, як прынята ў мастацтвазнаўстве гаварыць, былі не лёгкія, а вельмі сур'ёзныя адносіны.

**— А што Вы скажаце пра сучасную музыку? Якая Вам музыка падабаецца?**

— Я люблю музыку народную і класічную. Не знаю, што трэба разумець пад сучаснай музыкай? Калі добрыя сучасныя песні, якія называем "шлягерамі", то з вялікай прыемнасцю іх слухаю. А вось тое, што мне многае не па душы,— я не ведаю, ці трэба некаму на мяне за гэта крыўдаваць. Слухайце тое, што вам падабаецца, але вельмі добра, калі пры гэтым будзе выхоўвацца ў вас высокі эстэтычны густ, каб вы не засталіся на ўзроўні таго трэм-бэм, якое даравальнае для ўзросту пятнаццаці гадоў, але ўжо не даравальнае людзям сталым, таму што чалавек расце, духоўна сталее і павінен падымацца да вяршынь вялікай культуры.

**— Што з'яўляецца для Вас сімвалам Беларусі?**

— Сімвалы Беларусі, пра якія я рабіў на сесіі Вярхоўнага Савета даклад, якія адстойваў, для мяне і застануцца сімваламі. Далучым сюды, што такія імёны, як Скарына, Будны, Цяпінскі, Сапега, Валовіч, Каліноўскі, Купала, Колас, Багдановіч, Гарун, і іншыя — таксама для мяне сімвалы Беларусі.

**— Якая партыя або рух Вам найбольш блізкія?**

— Найбольш па сваёй праграме мне блізкі грамадскі рух, а цяпер ёсць і партыя, Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", а таксама Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада.

**— Што Вы думаеце пра сучаснае становішча Беларусі як дзяржавы, пра яе лёс і будучыню?**

— Вы разумееце, што сітуацыя вельмі і вельмі не простая. Я столькі напісаў пра гэта артыкулаў, выказваўся ў размовах, інтэрв'ю, на сесіі Вярхоўнага Савета, што наўрад ці мне варта паўтарацца, але коратка скажу. Я асабіста да гэтага часу так і не бачу выразнай, адпрацаванай, закончанай канцэпцыі станаўлення беларускай суверэннай, незалежнай дзяржавы, і ў гэтым наша бяда. Калі б была такая канцэпцыя, тады было б зусім зразумела, чаго мы хочам, куды ідзём. І не толькі зразумела, але большасць народа пагадзілася б з канцэпцыяй, прыняла яе, зрабіла свае высновы. Значыць, кожны грамадзянін, кожны чалавек ведаў бы, у імя чаго, дзеля чаго ён прыкладае сілы. Ну, а калі гэтага няма? Вядома ж, мы не можам вінаваціць людзей недасведчаных у палітыцы, кідаць ім за гэта папрокі, бо гэта было б крыўдна для іх. Людзі давяраюць палітыкам, хочуць давяраць — значыць, усё ў руках палітыкаў. Але вось калі палітыкі не вельмі арыентуюцца, чаго яны хочуць, якое грамадства стварыць, то гэта ўжо вельмі кепска. І калі ёсць палітыкі, якія жывуць учарашнім днём, якія думаюць, што сапраўды ўсё вельмі проста вырашыць: давайце, маўляў, арганізуем, падналяжам, паднаціснем, зоймем пануючае становішча ў парламенце, ва ўрадзе і павернем усё назад. Ведаеце, калі такое бачыш і думаеш пра гэта — міжволі прыходзіш у нейкую роспач. Ну, як жа растлумачыць людзям, што мінулае не вернецца, што гісторыя не мае хады назад. Не ў мінулае глядзець трэба, а наперад, на сённяшні стан рэчаў і думаць, як выйсці з гэтага вельмі цяжкага сённяшняга становішча. Я вам скажу як былы дэпутат, што зараз я не зайздрошчу тым, хто прыйшоў у тую Авальную залу, дзе я змагаўся за тое-сёе, патрэбнае для народа. Я думаю, ім лягчэй не будзе — сесія Вярхоўнага Савета гэта пацвярджае.

**— Калі-небудзь перад кожным разумным чалавекам паўстае пытанне: "Прыняць гэты свет такім, якім ён ёсць, ці змяніць яго?" Што лічыце правільным Вы?**

— Увогуле трэба прыняць свет такім, які ён ёсць, і старацца патрошку робіць яго лепшым. Я прыйшоў у жыццё і прыняў той свет, які застаў. Колькі мог, колькі мяне хапала, стараўся, каб у ім было хоць крышку лепш — калі не ва ўсім свеце, то хоць бы там, дзе жыву.

*Незадоўга да свайго юбілею Ніл Сымонавіч пагадзіўся сустрэцца з карэспандэнтам "Нашага слова" і адказаць на некалькі пытанняў.*

**— Ніл Сымонавіч, ці задаволены Вы сваім пісьменніцкім лёсам?**

— Сказаць па шчырасці, не ўяўляю паэта, які быў бы задаволены сваім творчым лёсам. Зрэшты, можа хто і быў гэткі. Але вельмі сумніўна. Калі быў — дык нейкі графаман, няйначай. Графаманам паняцце творчай незадаволенасці невядома. У іх усё дасканала, усё геніяльна. Іншая рэч, што я стараюся думаць пра свой лёс і глядзець на пройдзены шлях спакойна, не паддаючыся пачуццю крыўды і шкадавання. Нічога ж не перайначыш! Што зрабіў — тое зрабіў. Як умеў — так і працаваў. Мог бы лепш? Напэўна! Але ж, відаць, нешта перашкодзіла. Можа, і сам час, сама эпоха, у якую давялося жыць і сцвярджаць сябе. Драматычная, калі не сказаць мацней, эпоха! Колькі паэтычных талентаў зламала і загубіла, не дала ім разгарнуцца па-сапраўднаму, на ўсю прыродную сілу-моц! Бачу, дзе і ў якой меры плаціў даніну вымогам таго часу — шчыра плаціў, ахвяраваўся без прытворства і крывадушша. Бачу і радуюся, што гэтая даніна была не такой і вялікай, ва ўсякім разе, не была вызначальнай, што праз усе гады — ад першых спроб пяра і да сёння — галоўным творчым стымулам было жыццё ўласнай душы і жыццё народа, лёс Бацькаўшчыны.

**— Што Вам удалося здзейсніць як палітыку і грамадскаму дзеячу?**

— Думаю, што гэта змогуць лепш ацаніць іншыя, наўрад ці трэба гэта рабіць мне самому. Уся мая праца на дзяржаўна-палітычнай ніве, як і ўся грамадская чыннасць, праходзіла адкрыта, на вачах у людзей. Асабліва — праца (а можна сказаць, і змаганне — нават больш дакладна будзе) у Вярхоўным Савеце рэспублікі, калі пры маім зацікаўленым удзеле рыхтаваліся і прымаліся законы аб мовах, аб культуры, аб адукацыі, аб сцягу і гербу, аб захаванні гістарычнай спадчыны, аб архівах, аб бібліятэках. Як і ўсе выхады на парламенцкія "барыкады" па іншых пытаннях, як і ўдзел у іншых грамадска-палітычных акцыях, і ўдзел у дзяржаўных акцыях міжнароднага характару,— усё гэта, паўтараю, адбывалася на вачах у людзей, хай людзі і судзяць.

**— Ніл Сымонавіч, Вы настаўнік моладзі. Якім Вы бачыце свой уплыў на яе, за што яна Вас любіць? А яна любіць Вас.**

— Мне пашчасціла амаль усё сталае жыццё працаваць з моладдзю, перш за ўсё — са студэнцкай (з 1958 па 1986). Я чытаў лекцыі і вёў заняткі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Кожны дзень з моладдзю і сярод моладзі! Ды якой моладзі! Будучых настаўнікаў, навукоўцаў, журналістаў, паэтаў і пісьменнікаў. Пастаяннае кантактаванне з імі шмат дало мне для пазнання іх духоўнага свету, грамадскіх інтарэсаў і настрояў, іх маральных запатрабаванняў. Дапамагло мне пераканацца, што моладзь не церпіць фальшу і крывадушша, не любіць баязлівых і хітранькіх, кар'ерыстаў і прыстасаванцаў, запраданцаў і зноскаў і што з ёю, значыць, трэба гаварыць, у тым ліку і ў вершах, на хвалі поўнага даверу і шчырасці. Што для мяне ніколі не было цяжкасцю. Моладзь гэта адчувала і адчувае, і заўсёды плаціла і плаціць узаемнасцю. Відаць, гэта той момант, калі я змог нават і пачувацца шчаслівым, але спяшаюся сказаць пра іншае: я радуюся і ганаруся, што ў нас ёсць такая моладзь, што яна моцна становіцца на ногі і ўпэўнена, надзейна развінае свае дужыя крылы.

**— Творцы, у тым ліку і паэты, на пенсію не выходзяць. Працуюць, пакуль жывуць. Скажыце, калі ласка, што ў Вас зараз на рабочым стале і што мяркуеце ў бліжэйшы час зрабіць?**

— Па-першае, падрыхтавана новая кніга вершаў, з якой не ведаю, куды падацца, хто б яе мог выдаць. Назбіралася на цэлы зборнік твораў сатырычных і гумарыстычных — зноў жа, каму іх прапанаваць для выдання? І гэта не ўсё: мог бы скласці ладную кнігу публіцыстыкі з артыкулаў, напісаных за апошнія два гады. Аднак, зноў жа, для каго скласці, для якога выдавецтва? Заканчваю падрыхтоўку другога тома свайго першага Збору твораў. А думаю: калі ж вазьмуся за тыя задумы для п'ес і прозы, якія гадамі мяне чакаюць? А пра тое, калі дойдуць рукі да майго хатняга фальклорнага архіва, у якім матэрыялаў, відаць, тамоў на дзесяць,— дык і думаць баюся. Можа, і зусім не дойдуць. Адным словам, выходзіць, што трэба яшчэ доўга жыць.

*У 1989 годзе Ніл Гілевіч ініцыіраваў, а затым узначаліў "Таварыства беларускай мовы" імя Ф.Скарыны з тым, "каб наша родная мова запанавала ў Беларусі паўсюдна і назаўсёды". Друкаваным органам Таварыства стала газета "Наша слова", якую першы год ён рэдагаваў сам. Апублікаваныя ў гэтым штотыднёвіку артыкулы, выступленні і інтэрв'ю ярка высвечваюць грамадзянскую пазіцыю народнага паэта, якая ім сфармулявана і ў паэтычных радках:*

*Равуць вятры, грымяць грамы,*
*Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,*
*Мы дойдзем, дойдзем мы*
*Да Беларусі!..*

**Матэрыял падрыхтавала да друку Ірына КРЭНЬ.**

Шаноўны Ніл Сымонавіч

Шчыра віншуем Вас з 65-годдзем з дня нараджэння.

*Зычым Вам моцнага здароўя, даўгалецця і далейшага плёну ў працы.*

Гімнамі матчынай мове
Імя сваё ўвекавечылі.
Любае роднае Слова —
Еднасці мара адвечная,
Верым, ад Бога яно.
Ім Вас люлялі бярозы,
Чулі, як сосны і жыта,
Нівы шапталі і косы,
І вербы чаротам спавітыя,
Лашчыць і Гайна даўно.

**Сябры па Таварыству беларускай мовы Менскага аўтазавода**
**30 верасня 1996 года.**

# Нацыянальны кангрэс у абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры адбудзецца 19 кастрычніка

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

Пад гэтым дакументам падпісаліся Сяргей Антончык, Уладзімір Анцулевіч, Юры Беленькі, Міхаіл Біч, Станіслаў Багданкевіч, Васіль Быкаў, Генадзь Быкаў, Дзмітры Булахаў, Генадзь Бураўкін, Аляксандр Бухвостаў, Лявон Баршчэўскі, Вінцук Вячорка, Ніл Гілевіч, Уладзімір Глод, Валянцін Голубеў, Людміла Гразнова, Павел Данэйка, Аляксандр Дабравольскі, Юры Дракахруст, Юры Захаранка, Віктар Івашкевіч, Алег Ігнаценка, Аляксандр [illegible]лай, Генадзь Карпенка, Валер[illegible] Кез, Уладзімір Конан, Валеры Костка, Мікалай Крукоўскі, Анатоль Лябедзька, Жанна Літвіна, Анатоль Майсеня, Алег Манаеў, Мікалай Матукоўскі, Іван Нікітчанка, Міхаіл Пліска, Уладзімір Падгол, Валянціна Палевікова, Аляксандр Патупа, Валянціна Свяцкая, Іосіф Сярэдзіч, Георгій Таразевіч, Уладзімір Тарасаў, Пётр Чавус, Аляксандр Фядута, Павел Шарамет, Станіслаў Шушкевіч.

**Суграмадзяне!**

З ініцыятывы вядомых палітыкаў і грамадскіх дзеячаў Беларусі 19 кастрычніка ў Менску пройдзе Нацыянальны кангрэс у абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры. Дата кангрэса абраная не выпадкова: на гэты ж дзень прызначана правядзенне правакацыйнага "ўсебеларускага сходу", абапіраючыся на падтрымку якога Аляксандр Лукашэнка мае намер правесці рэферэндум у тэрмін, супярэчны Канстытуцыі, і пазбавіць паўнамоцтваў адзіны заканадаўчы орган — Вярхоўны Савет. Нашая мэта — не даць здзейсніцца гэтаму плану, зрабіць чутным голас пратэсту, абараніць Канстытуцыю і законнасць.

У рабоце кангрэса можа ўзяць удзел кожны грамадзянін Беларусі. Калі ён сябра якой-небудзь партыі, грамадскай арганізацыі ці прафсаюза, ён можа быць дэлегаваны сваёй раённай, тэрытарыяльнай альбо першаснай (для прафсаюзаў) арганізацыяй. Калі ён не партыйны работнік, дык, незалежна ад формы ўласнасці прадпрыемства і статуса арганізацыі, у якой ён працуе, яго можа дэлегаваць працоўны калектыў ці яго частка. І ў тым, і ў другім выпадку дастаткова падаць у аргкамітэт выпіску з пратакола сходу з пазначэннем колькасці групы грамадзян, якая яго дэлегавала.

Мы запрашаем да ўдзелу ў працы кангрэса таксама дэпутатаў Саветаў усіх узроўняў як прадстаўнікоў адзіных канстытуцыйных органаў прадстаўнічай улады.

**Генадзь Бураўкін,**
**Аляксандр Бухвостаў,**
**Генадзь Карпенка,**
**Георгій Таразевіч,**
**Юры Захаранка.**

Кантактны тэлефон: (017) 222-36-20.
Адрас для лістоў: 220033, Менск, а.с. 194

*Згадкі*

# Партрэту 420 гадоў

Класічны партрэт аднаго з піянераў беларускага кнігадрукавання дала нашай краіне-браначчы Баранавіччына. У Крашыне ў маёнтку над ракой Шчарай Канстанціна Святаполк-Завадскага беларускі бібліяфіл, бібліёграф, публіцыст, перакладчык, калекцыянер і гісторык беларускай літаратуры Рамуальд Аляксандравіч Зямкевіч (7.2.1881, Варшава — 1943 або 1944) знайшоў Біблію, надрукаваную ў Бярэсці ў 1563 годзе, а ў ёй адбітак дрэварыта з партрэтам Васіля Цяпінскага (Васіля Мікалаевіча Цяпінскага-Амельяновіча, 1530-я або пач. 1540-х гг., Полаччына — 1603), на якім была дата "1576 год", дык атрымліваецца, што партрэт славутага дзеяча зроблены 420 гадоў таму. На жаль, сам арыгінал сёння страчаны.

**М.МАЛІНОЎСКІ.**
г.Баранавічы.

*Уражанні*

# "Русские деньги"

Перад ад'ездам у Беларусь з Польшчы гавораць паміж сабой дзве жанчыны. Абедзве маюць вышэйшую адукацыю, адна з іх псіхолаг.

— У мяне засталіся злотыя.

— Дык прыедзеш — абмяняеш.

— Так, сапраўды, трэба абмяняць на расійскія.

Вось так сказала жанчына (псіхолаг па адукацыі) пра беларускія грошы.

На маю заўвагу яна сумелася і сказала: "Ну, на гэтыя — савецкія". А потым увогуле на мяне раззлавалася, калі я сказаў, што такое недаравальна для людзей з вышэйшай адукацыяй.

Між іншым, з пункту гледжання псіхалогіі,— усё правільна. У нас і зараз грошы і савецкія, і расійскія, таму што мы самі і савецкія, і расійскія. Саўкі, адным словам.

**Валеры ГРЫЦУК,**
**несавецкі беларус.**

*У свеце*

# Казахстанскі варыянт

25 кастрычніка 1991 года Казахстан абвясціў сябе суверэннай дзяржаваю, а 16 снежня 1992 года краіна заявіла аб атрыманні ёй незалежнасці, стаўшы апошняй з былых рэспублік СССР, якая зрабіла гэта. Чым суверэнітэт розніцца з незалежнасцю — не ведае ніхто, таму бліжэйшае свята незалежнасці — яе пяцігоддзе — Казахстан будзе адзначаць сёлета ў снежні.

Што адбылося ў новай незалежнай краіне за гэтыя пяць гадоў? Як ні дзіўна, але падзеі палітычнага і эканамічнага жыцця гэтай азіяцкай краіны быццам адлюстроўваюць падзеі жыцця Беларусі. Казахі галасавалі на рэферэндумах па два разы на год, бачылі, як прэзідэнтам краіны былі распушчаныя два склады парламента і за нядоўгі час памянялі дзве Канстытуцыі. Нягледзячы на мноства праяваў дэмакратыі — выяўленняў волі народа, якімі сталі шматлікія рэферэндумы, краіна пасля змянення прэзідэнтам стылю кіравання выразна змяніла аблічча з дэмакратычнай на аўтарытарную.

Прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў у час свайго выбрання лічыўся апалагетам дэмакратыі. Але пад час апошняй сваёй сустрэчы з прэзідэнтамі Кыргызтана і Узбекістана (якія давялі ўзровень грамадскага і эканамічнага жыцця сваіх краін да ўзроўню савецкіх рэспублік 70-х гадоў) ён не выказаў аніякіх разыходжанняў у поглядах з імі. Прэзідэнты нават абмяркоўвалі магчымасць інтэграцыі ў межах трох сваіх краін (такі праект узнік яшчэ год таму).

Але інтэграцыйныя памкненні не перашкаджаюць кожнай дзяржаве лічыць грошы ў сваім бюджэце. Таму Казахстан мае шматмільённую (у доларах ЗША) запазычанасць Кыргызтану за атрыманую электраэнергію. Узбекістан жа, у сваю чаргу, штогод напярэдадні зімы адключае паступленне газу ў Кыргызтан. Вырашэнню гэтых і іншых праблемаў і сапраўды магло б спрыяць утварэнне адзінай эканамічнай прасторы, але заявы аб ім застаюцца толькі заявамі. Як і інтэграваныя з Расіяй беларусы, казахстанцы ў межах азіяцкай супольнасці вырашаюць свае праблемы самі.

Адказным за становішча ў краіне з'яўляецца яе кіраўнік. Як заявіў пра сябе прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў? Некалькі гадоў таму ён вылучыўся сярод лідэраў постсавецкіх краінаў дзякуючы мноству прапанаваных ім праектаў інтэграцыі ў межах былога СССР. Але апошнім часам з падобнымі прапановамі Назарбаеў не выступае. Больш таго, мясцовыя аналітыкі лічаць, што ўсе гэтыя праекты мелі адзіную мэту — зрабіць іх аўтара папулярным у вачах былых грамадзян СССР як у іншых краінах, так і ў сваёй, дзе на пачатку 90-х гадоў казахі складалі толькі палову насельніцтва.

Папулярнасць Назарбаева ў асяроддзі расійскамоўных казахстанцаў дала плён: нядаўна ў краіне пасьпяхова прайшлі два ініцыяваныя ім рэферэндумы. Паводле вынікаў аднаго, была прынятая Канстытуцыя, якую тагачасны міністр юстыцыі (цяпер гэтую пасаду займае іншы чалавек) назваў "назарбаеўскай", бо яна надавала прэзідэнту правы амаль неабмежаваныя. Вынікам другога рэферэндуму стала працягненне паўнамоцтваў прэзідэнта да 2000 года.

Адзінае, у чым Казахстан радыкальна розніцца з Беларуссю,— арганізацыяй нацыянальнага жыцця. У час атрымання краінай незалежнасці 50% яе жыхароў роднай мовай называлі расійскую, хаця расійцы складалі толькі частку шматэтнічнага кангламерата, які суіснаваў з карэннымі жыхарамі краіны.

У незалежным Казахстане людзі, якія ў СССР адносілі сябе да тытульнай нацыі — расійскай,— сталі пачуваць сябе няўтульна. Пачаўся працэс міграцыі іх у Расію, бо Казахстан сваёй радзімай яны не лічылі. Уздым эміграцыі прыпаў на 1994-1995 гады, калі за год з краіны выязджала больш за 500 000 асобаў — значная колькасць для краіны з 18-мільённым насельніцтвам. У той час выдаваная ў Алма-Аты расійскамоўная газета "Караван" публікавала звесткі аб тым, што галоўныя адміністрацыйныя пасады ў Казахстане пераймаюць казахі, што адбываецца "казахізацыя" краіны. "Чужыя сярод сваіх?" — такую назву атрымала адна з публікацый "Каравана", прысвечаная разгляду праблем расійскамоўнага насельніцтва краіны.

Сёння спрэчкі вакол праблем нацыянальнасці страцілі былую вастрыню і шмат хто бачыць у гэтым заслугу менавіта прэзідэнта. У мінулым снежні пад час сустрэчы з журналістамі ён шмат каго шакіраваў сваімі праказахскімі выказваннямі. У прыватнасці, дасягненнем прэзідэнт назваў змяненне прапорцыі расійска- і казахскамоўнага насельніцтва на карысць апошняга (расійцы склалі 32%, а казахі — 43% грамадзян).

Нечакана для многіх, за апошні год тон прэзідэнцкіх выказванняў змяніўся. На апошняй прэс-канферэнцыі ён звярнуўся да журналістаў па-расійску, падкрэсліўшы, аднак, што карыстанне гэтай мовай выклікае вострую крытыку ў яго адрас. Затое на апошніх Алімпійскіх гульнях казахстанцы расійскага паходжання заваявалі для сваёй краіны чатыры залатыя медалі. Гэта стала прыкметаю часу, калі на першае месца ў людзей стала выходзіць не іхняе этнічнае паходжанне, а грамадзянская прыналежнасць. У краіне паступова складаецца адзіная грамадзянская супольнасць людзей розных нацыяў і культур, непадобнасць якіх не перашкаджае супольнаму будаўніцтву маладой дзяржавы.

Нягледзячы на паляпшэнне стану міжнацыянальных зносінаў у краіне, у сваіх прамовах Назарбаеў ці раз згадваў аб існаванні тых, хто хоча пагоршыць стасункі паміж казахстанцамі розных нацыянальнасцяў. Што меў ён на ўвазе?

Абмяркоўваючы нацыянальныя праблемы Казахстана, сродкі масавай інфармацыі і гэтай краіны, і суседняй Расіі ўсё часцей згадваюць казакоў — сямірэчанскіх, яіцкіх і сібірскіх. У час заваёвы Расіяй Сібіры і Сярэдняй Азіі казацтва было авангардам каланізацыі. Казакі-асаднікі атрымлівалі ад расійскага ўрада значныя прывілеі і вялікія надзелы зямлі, адабранай у казахаў. Карэннае насельніцтва адсоўвалася ў пустынныя раёны, у сапраўдныя рэзервацыі, а чарназёмныя землі і вытокі рэкаў Іртыша, Яіка ды іншых засяляліся расійцамі-казакамі.

Пасля захопу ў 1917 годзе ўлады ў Расіі бальшавікамі і ўтварэння Казахскай савецкай сацыялістычнай рэспублікі прывілеі казацтва былі скасаваныя. Але цяпер у Казахстане з' явіліся людзі, якія называюць сябе спадкаемцамі тых казакаў і патрабуюць вяртання страчанага.

Больш таго, у Расіі існуюць прыватныя асобы і цэлыя арганізацыі, якія заяўляюць аб прэтэнзіях Расіі на паўночныя землі Казахстана. Свае патрабаванні яны абгрунтоўваюць тым, што пасля голаду 1932 года, калі на поўначы краіны памёрлі тры мільёны казахаў і яшчэ паўтара мільёна эмігравалі, гэтыя землі сталі засяляцца расійцамі. Пік гэтага працэсу прыпаў на паваенныя гады і час засваення цаліны ў 50-х гадах, у выніку чаго расійцы ў гэтым рэгіёне ператварыліся ў большасць.

Таму пагрозу грамадзянскаму ладу казахі бачаць не столькі з боку сваіх расійскамоўных суайчыннікаў, колькі звонку, з Расіі. Выказванні такіх яе лідэраў, як Салжаніцын ці Жырыноўскі, ужо не раз выклікалі вострую рэакцыю казахскага насельніцтва краіны. У адказ на прэтэнзіі да іхняй краіны казахскія гісторыкі і нацыянальныя лідэры кажуць: паглядзіце на мапу Расіі — назвы Цюмень, Барнаул ды мноства іншых маюць яўна цюркскае паходжанне! Якія правы маюць паўтара мільёна казахаў, што жывуць у Расіі,— пытаюцца яны.

Нядаўна даследаванне поглядаў расійскамоўных грамадзян Казахстана правялі карэспандэнты мясцовай філіі агенцтва Reuter. Згодна з яго вынікамі казахі пачуваюць сябе больш пэўна і камфортна. Яны станоўча адказваюць на пытані перспектываў развіцця Казахстана і свайго суіснавання з расійцамі, выказваючы адкрытасць і аптымізм.

Што тычыцца расійскамоўных казахстанцаў, дык нават тыя з іх, якія маюць добры і стабільны заробак, думаюць пра магчымасць выезду з краіны калі не цяпер, дык пазней. Яны не маюць пэўнасці ў будучыні, бо баяцца, што правы іхнія і іх дзяцей з цягам часу могуць быць абмежаваныя прадстаўнікамі карэннай нацыі.

Каб зменшыць напружанасць у грамадстве, прэзідэнт Назарбаеў падпісаў нядаўна дакумент аб наданні расійскай мове статуса афіцыйнай, хаця дзяржаўнай, адпаведна Канстытуцыі, засталася казахская.

Што чакае краіну пасля 2000 года? Нядаўна часткаю дзеючых паасобку арганізацый Казахстана быў створаны рух "Азамат" ("Грамадзянін"), у які ўвайшлі прадстаўнікі не толькі палітычных партыяў, але і казахскіх ды расійскамоўных нацыянальных арганізацый. Народ Казахстана працягвае пісаць сваю гісторыю.

**Падрыхтаваў У.ПАНАДА.**

# Юнацтва — у ахвяру

Калісьці вёска Малыя Алашкі была вельмі вялікай, адной з буйнейшых вёсак Заходняй Віцебшчыны. "Сікораўшчына" — так называлі яе часам, бо галоўным аздабленнем яе стаў сад Івана Сікоры, паслядоўніка І.Мічурына, мысліцеля, які меў знаёмства і вёў перапіску з Коласам, Купалам, Гарэцкім, іншымі беларускімі дзеячамі. Дагэтуль у старой сялянскай хаце вісіць фотаздымак Льва Талстога, падпісаны І.Сікору ў 1907 годзе.

Зараз Алашкі паміраюць. На ўсю вёску засталося некалькі старых. У садзе няма ніводнай яблыні славутага гатунку "Памяці Сікоры" — шэдэўра майстра. Імя ж ягонага сына, Віктара Сікоры, захавалі архівы НКУС і КДБ, як "нацыяналіста-здрадніка", які пад час вайны ўдзельнічаў у патрыятычных маладзёжных арганізацыях, а пасля прыходу Чырвонай Арміі падаўся ў атрад "лясных братоў". Сам ён па-ранейшаму жыве ў бацькоўскім доме, адзначыўшы нядаўна 71-ю гадавіну жыцця. Рэабілітацыі ён не патрабуе, разумеючы — не тыя зараз часы. Перапісваецца з былымі таварышамі па лагерах; успаміны ж, што надыходзяць усё часцей і часцей, нараджаюць вершы...

З надыходам немцаў бацька Віктара, чалавек адукаваны, вырашыў, што, нягледзячы на акупацыю, сын усё ж павінен вучыцца, і параіў таму паступіць у настаўніцкую семінарыю ў Паставах. Там вучоба ішла звычайным чынам — тыя ж дысцыпліны, што і ў савецкай школе, дзе Віктар паспеў скончыць шэсць класаў,— хіба што толькі выкладчыкі, у асноўным — выхаванцы Віленскага універсітэта — былі куды больш адукаванымі людзьмі, чым настаўнікі з Усходняй Беларусі. Улетку 1943 года ў семінарыі з'явіліся людзі і паведамілі навучэнцам: з гэтага дня ўсе вы — сябры Саюза Беларускай Моладзі. З аднакласнікаў Віктара адмовіліся толькі пяць хлопцаў і сярод іх — сын мясцовага бацюшкі. Дарэчы, у хуткім часе яны былі вывезены ў Германію. Адразу пазнаёмілі з ідэалагічнымі прынцыпамі СБМ, а тым, хто пажадаў пасаду малодшых кіраўнікоў,— прапанавалі паехаць на курсы ў Альбертын. Разам з Віктарам — той вылучаўся аўтарытэтам сярод хлопцаў — паехалі яшчэ шэсць чалавек. Правёўшы ў Альбертыне месяц, вярнуліся дружыновымі, атрымаўшы дадатковы запас ведаў па беларускай гісторыі, літаратуры, шыхтовай падрыхтоўцы. Якраз надышоў верасень, пачаліся заняткі ў семінарыі, кіраўніком семінарскай арганізацыі СБМ стаў Ян Занковіч, а дружыновым — Віктар Сікора. Але ў хуткім часе яму прыйшлося заняць пасаду Занковіча, бо той узначаліў раённую арганізацыю.

Семінарскае жыццё не абмяжоўвалася выключна вучобай. Штотыднёва ладзіліся танцы, канцэрты, чытанне рэфератаў. Займаліся і страявой падрыхтоўкай, а вестку пра СБМ, як узгадвае сёння Віктар Іванавіч, успрынялі з захапленнем больш за ўсё таму, што ўсім была патрэбная зброя. Бо з аднаго боку ўціскалі палякі, імкнучыся вызваліць сабе адміністрацыйныя пасады, агаворвалі ўсіх, хто перашкаджаў, робячы іх "камуністамі". Пакуль беларусы не пачалі рэгулярна скардзіцца вышэйшаму камандаванню, палякі не здаваліся. Не супакойваліся і потым, адлоўліваючы часам юнакоў у форме СБМ і збіваючы іх за тое, што — "хамы". Трэба было абараняцца, і гэтыя настроі беларускіх хлопцаў выкарысталі немцы, зрабіўшы з юнакоў хоць які шчыт супраць партызанскага начнога разбою. Хлопцам далі дзяжурнае памяшканне і зброю, з якой яны ўначы патрулявалі па Паставах, за ўвесь час ні разу так і не стрэліўшы. Тым не менш, пасля "вызвалення" Чырвонай Арміяй ніхто з былых семінарыстаў не атрымаў менш за 10 год.

Больш за 200 чалавек навучаліся ў Пастаўскай настаўніцкай семінарыі. Менавіта з гэтай моладзі павінна была скласціся новая нацыянальная эліта замест вынішчанай у 30-я гады інтэлігенцыі. Шмат увагі ўдзяляў семінарыі Барыс Кіт, ён неаднаразова наведваў семінарыстаў. У апошні год вайны ён 5 месяцаў прарабіў дырэктарам у Паставах і адсюль падаўся на эміграцыю, разумеючы, што сустрэча з Чырвонай Арміяй шмат каму прынясе зняволенне. Настаўнік жа Пятро Шчасны застаўся і атрымаў 10 год за "супрацоўніцтва з ворагам". "Лепшую моладзь вынішчылі, загубілі, і ніхто не падумаў, чаму за два гады атрымалася ў СБМ на небывалую вышыню ўзняць патрыятычны дух моладзі, чаму ягоным прыкладам натхніліся тыя, хто пасля вайны ўступіў у Саюз Беларускіх Патрыётаў",— разважае В.І.Сікора. Таксама, кажа ён, немагчыма ўявіць, каб у СБМ маладыя людзі ішлі з-за якіхсьці матэрыяльных набыткаў, як гэта было з камсамолам. Напрыклад, у тым жа Альбертыне харчаванне нашмат горшае, чым у семінарыстаў дома. У дрэнных умовах жыло беларускае кіраўніцтва і ў Менску. У гэтым Віктар пераканаўся сам, бо часам ездзіў па справах працы з моладдзю, прысутнічаў на тайных нарадах, куды, узброены двума пісталетамі, суправаджаў М.Шкялёнка і Я.Найдзюка. Некалькі разоў ахоўвалі і М.Ганько, з якім склаліся шчырыя адносіны.

Дарэчы, толькі аднойчы пад час вайны Віктар Сікора ўдзельнічаў у баявой сутычцы — па дарозе на Першы ўсебеларускі кангрэс пастаўская дэлегацыя была абстраляная групоўкай Арміі Краёвай,— тыя спачатку заклалі міну пад колы цягніка,— ледзь адбіліся, таму давялося вярнуцца. Неаднаразова Віктара хацелі застрэліць партызаны, але таму заўсёды шанцавала выратавацца.

У студзені 1944 г. В.Сікору адправілі ў Менск на курсы старэйшых кіраўнікоў. Там правёў два месяцы — найвялікшае ўражанне пакінула магчымасць вельмі блізка пазнаёміцца з людзьмі, якімі дагэтуль юнак захапляўся на адлегласці: ваенную справу выкладаў Язэп Сажыч, які насіў тады форму лейтэнанта цягніковай аховы, Францішак Кушаль чытаў лекцыі, часта завітвала на гарбату да вучняў Наталля Арсеннева, нават падпісала Віктару свой вершаваны зборнік "Пад сінім небам", лекцыі па беларускай музыцы чытаў вядомы кампазітар Шчаглоў. На курсах Віктар Сікора ўпершыню ўбачыў Р.Астроўскага і М.Шкялёнка. Асабліва ж гуртавалася моладзь вакол У.Родзькі. Цёплыя адносіны склаліся ў Віктара і з Я.Калубовічам.

Разам з ім пасля менскіх курсаў Віктар паехаў у Вільню, дзе, у прадчуванні вырашальнага наступу Чырвонай Арміі, нямецкая контрразведка пачала распрацоўваць план падрыхтоўкі ўзброеных груп, якія павінны былі застацца ў тыле савецкіх войск, каб рыхтаваць глебу для ўздыму ў перспектыве антыбальшавіцкага паўстання. З гэтымі атрадамі пасля павінны былі выйсці на сувязь выхаванцы батальёна "Дальвіц" — узброенага дыверсійнага фармавання. У Вільні, атрымаўшы інструктаж у маёра вермахта Геруліса, Віктар вярнуўся ў Паставы, дзе і стварыў баявую групу з сяброў-семінарыстаў.

Па вызваленні Віктара забралі ў Чырвоную Армію, там трапіў у штаб пісарам, даведаўся, што рыхтуецца адпраўка на І Прыбалтыйскі фронт, адкуль бліжэй да родных мясцінаў. Змагацца ж пад камуністычнымі сцягамі не змог. Дэзерціраваў і падаўся ў лёс.

Разумеў — знойдуцца "добрыя людзі", што падкажуць новай уладзе: юнак насіў СБМаўскую форму, кіраўніком быў. Поглядаў сваіх хаваць не хацеў, бо заўсёды марыў аб незалежнасці Беларусі, не жадаў пагаджацца ні з чыёй уладай на сваёй зямлі. Да таго ж, шмат ягоных сяброў з Паставаў і Глыбокага ўжо былі арыштаваныя за адно толькі "навучанне пад немцам". У лесе сабраўся досыць вялікі атрад з былых семінарыстаў, жаўнераў Беларускай Краёвай Абароны, людзей, якія разумелі — жах бальшавізму зараз і зноў усталяваўся надоўга, таму абіралі вольнае жыццё ў вольным лесе. У цяжкадасягальным месцы пабудавалі сховішча, нават разбілі ўласную гаспадарку, сталі самі выраблять дзёгаць. Рабаваць сялян, па прыкладзе партызан, не хацелася, не кажучы аб хаця б адным забітым нявінным чалавеку. Кожны марыў вярнуцца калі-небудзь да звыклага вясковага жыцця, таму камандзір Віктар Сікора папярэдзіў — хаця б адна ахвяра назаўсёды закрые шлях дадому.

Пасля амністыі для дэзерціраў Віктар паслухаў бацькоў, якія ўпрошвалі вярнуцца дахаты. Вярнуўся. Уладкаваўся паштальёнам. Адначасова паспрабаваў падтрымаць сувязі з віленскімі прадстаўнікамі падпольных беларускіх арганізацыяў, збіраўся дапамагчы атраду "Каліноўшчыкі", што павінны быў пачаць дзейнічаць, але быў разгромлены яшчэ да першай акцыі. Арыштавалі ў выніку правалу У.Родзьку, і ў сваіх паказаннях ён назваў Віктара як кіраўніка Пастаўскай філіі Беларускай Нацыянальнай Партыі. І 5 снежня 1945 г., у гадавіну сталінскай Канстытуцыі, па яго прыйшлі два афіцэры і сем аўтаматчыкаў. Нават і пры такіх абставінах мог бы ўцячы, але ведаў — бацькоў не пашкадуюць.

Шлях па пакутах пачаўся з вілейскай турмы, потым — 17 месяцаў менскай "амерыканкі", турма ў Воршы, адкуль па Ангары, па Лене этапіравалі ў Бадайбо. Два гады прайшлі на залатых вышуках. ВОХР там казаў: "Нам вашая праца не патрэбна, нам трэба, каб вы замярзалі з рыдлёўкай у руках". Дазволена толькі два лісты ў год. Затрымлівалі ў адным лагеры не больш за шэсць месяцаў. Жудасна пакутвалі ад машкары. Увесь час кагосьці забівалі "пры спробе бегчы". За застрэленага ўцекача вартаўнікам давалася два месяцы адпачынку і 200 рублёў, таму яны часта загадвалі ЗК прынесці што-небудзь, што ляжала за шыльдай "забароненая зона", і застрэльвалі яго, як толькі той выходзіў за яе.

Але не лягчэй было і да вынясення прысуду — праз 6 месяцаў зняволення Віктара на допыты ўжо насілі. Білі ля кожных з 13-ці дзвярэй, праз якія трэба было праходзіць. У 12.00 начы: "як прозвішча?" — і на допыт. Да паловы шостай пратрымаюць, ні аб чым не спытаўшы, і — назад, у камеру, а а 6 раніцы — уздым. Часам допыты цягнуліся па два тыдні — следчы і ахова мяняюцца, а зняволены нязменна трывае ў кабінеце. "Гавары, распавядай",— і зноў збіванне.

Пабываў В.Сікора ў тайшэцкім лагеры — там пазнаёміўся з ЗК Л.Русланавай, быў у Брацку і іншых шахтах. Пасля ж расстрэлу Л.Берыі з'явіўся пракурор Іркуцкай вобласці і сказаў, што можна пісаць скаргі.

Скаргу на Маладзечанскі трыбунал, які даў яму 10-гадовы тэрмін, Віктар Сікора напісаў. Гэта быў ужо 1954 год, Віктар хадзіў бесканвойным, а пасля скаргі этапам быў выпраўлены з Тайшэта ў іркуцкую турму, адтуль — у Кавас, Свярдлоўск, Маскву, і ў менскую турму — там і праседзіў у адзіночцы, пакуль не скончыўся тэрмін.

Вызваліўшыся, Віктар зразумеў — дарога яму ўсюды зачынена, бо адукацыі — толькі шэсць класаў савецкай школы. Адукацыю, атрыманую ў настаўніцкай семінарыі, яму не залічылі.

Пайшоў у аграномы — дзякуючы толькі вядомасці бацькі экстэрнам (ізноў з той жа нагоды) скончыў па 3 курсы за год Гарадзенскі сельскагаспадарчы інстытут. Выдатна абараніў дыплом і ў 1965 г. стаў галоўным аграномам калгаса.

На пытанне, ці шкадуе Віктар Іванавіч аб тым, што менавіта так склалася жыццё, ён адказвае: шкада аб адным — сцёрліся назаўсёды, зніклі ў цемры імёны тых хлопцаў, з якімі разам верылі ў тое, што незалежнасць роднай зямлі — зусім блізка. Запаветная мара атрымалася адкладзенай на дзесяцігоддзі...

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**




*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

*Францішак Багушэвіч*

**Вучымся**

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Стрыжань

## Трэба адчуць, або Пра публіцыстычны нарыс

*Трэба адчуць, ці адгукнецца ўнутры мяне пазнанае мною або гэта пакідае безуважным маё сэрца... Толькі тады, калі факты спалучаюцца з вопытам майго ўласнага жыцця, з тым, што я бы хацеў сказаць людзям, з тым, што мне дорага і цікава, толькі тады я магу пісаць.*

**Барыс Гарбатаў.**

Публіцыстычны стыль мае адметную сінтэтычную форму выяўлення і адлюстравання жыцця — нарыс. У сваёй грунтоўнай працы "Стылістыка публіцыстычных жанраў" М.Я.Цікоцкі называе розныя віды нарыса — лірычны ўспамін пра дзяцінства, апісанне падарожжа, гутарка на маральна-этычныя тэмы, партрэт сучасніка ды інш. Навуковец падкрэслівае, што публіцыстычнасць, праблемнасць, актыўнае ўмяшанне ў жыццё, гарачая зацікаўленасць грамадска-палітычнымі, эканамічнымі, культурнымі праблемамі грамадства з'яўляюцца асноваі нарыса, вызначаючы спецыфіку яго як газетна-часопіснага жанру.

Важнай стылеўтваральнай адзнакай нарысаў выступае публіцыстычная зададзенасць, ідэя — прачулая ды асэнсаваная аўтарам, увасобленая ў гарманічныя сродкі.

Строгасць стылю, прастата і сціпласць, дакладнасць і яснасць выражэння вызначаюць нарыс Ф.Собаля "Аршанскі ільнокамбінат" (1957). Публіцыст, ведучы своеасаблівую экскурсію па цэхах прадпрыемства, фактаграфічным апісаннем імкнецца сцвердзіць ідэю высокай вартасці беларускай гаспадаркі, што мела ў той час асаблівую грамадска-палітычную значнасць. У свае нягучныя словы аўтар укладае захапленне і пачуццё гордасці: **Вось мы на складзе сыравіны. Колькі тут ільновалакна — соцні і тысячы тон! Рознымі шляхамі трапляе яно сюды — яго прывозяць і на аўтамашынах, і па чыгунцы, і па шырокім Дняпры...**

Найбольш важныя высновы пра перспектывы прадпрыемства пададзены ў заключэнні нарыса. Для нас яны цікавыя як сведчанне гісторыі: яшчэ ў канцы 50-х гадоў, аказваецца, на Беларусі тонкія палотны не выраблялі, толькі зрэб'е ды пянька: **Неўзабаве, апрача мяшкоў і ўпаковачных тканін, камбінат пачне вырабляць тканіны шырокага ўжытку — абрусы, сурвэткі, пакрывалы і іншыя тонкія палотны. Не трэба будзе вывозіць за межы рэспублікі доўгае ільновалакно. Яно будзе перапрацоўвацца на месцы.**

Зусім іншым стылем — пачуццёва, па-мастацку — расказваецца пра лён у нарысе В.Палтаран "Лён мой, лён". У ім аўтарскай задумай чаргуюцца яркія апісанні, разважанні, трапныя дэталі. Непасрэдны зварот да чытача набывае форму лірычнага адступлення, выказванні і словы нараджаюцца ўспрыманнем, пачуццём, вопытам, асацыяцыямі асобы. Таму ў нарысе шмат мастацкасці, вобразнасці: **"На плошчы праспект яшчэ харашэе. Высокія густалістыя дрэвы стаяць тут у два рады, зялёнае сутонне пад імі працінаюць танютыя залатыя ніткі сонца. Пахне таполяй, нагрэтым асфальтам, кветкамі і яшчэ нечым вельмі харошым — адразу і не зразумееш чым.**

**Іду далей па алеі, несучы на сабе мігатлівую пераліўстую пеляну сонца і ценю. Ісці ўжо, адчуваю, недалёка: вунь тыя белыя будынкі, што відаць у прасветах паміж дрэў. Гэта, мусіць, і ёсць ільнокамбінат".**

Уражанні, адчуванне аўтара ствараюць мастацкае апісанне, публіцыстычнасць якога вырастае і разгортваецца на суб'ектыўнай для выкладу заўвазе,— упамінанні пра загадкавы, знаёмы і забыты пах, якія выклікаюць чытацкую цікаўнасць.

*(Працяг будзе.)*

**Практычная стылістыка**

# Восень і залатая ліпа

"Восень расклала пажарышчы на бярозах, ярка-чырвоным полымем запаліла клёны. І яны сталі такія прыгожыя і задуменныя..." Імкненне да яркасці, вобразнасці апісання ў цытаванай вытрымцы з нарыса прывяло да стылёвай кволасці, за якой — парушэнне дакладнасці выказвання, стылёвая дысгармонія.

Пачнём з аналізу слова **пажарышча**. ТСБМ так раскрывае яго значэнне: 'Месца, дзе быў пажар; тое, што засталося пасля пажару.' Прыведзеныя ў гэтым слоўніку прыклады ўжывання сведчаць пра трагічную адзначанасць гэтай лексемы, яе сувязь з адчуваннем страты, смерці, разбурэння: "А завіруха гудзела, намятала гурбы, прыкрывала снегам чорныя галавешкі пажарышча" (М.Лынькоў); "На дварах наўсцяж яшчэ дымяць пажарышчы, стаяць чорныя, абвугленыя дрэвы, нялюдска вытыркаюцца закопчаныя печы" (І.Навуменка). Значыць, гэта слова не можа і ў пераносным сэнсе абазначаць яркія фарбы восені — жоўты колер бярозавага лісця. Пажарышча чорнае. Ці можа яно ўвасабляць прыгажосць? Ды і не спалучаецца назоўнік **пажарышча** з дзеясловам **раскласці**. Раскладаюць вогнішча. Яшчэ можна распаліць агонь. Такія спалучэнні ў мове могуць ужывацца і ў пераносным значэнні, аднак у цытаваным кантэксце словазлучэнні **раскласці вогнішча, распаліць агонь** успрымаюцца ненатуральна, бо разумеюцца літаральна, у прамым значэнні, як адпаведнае дзеянне. Гэты вобраз надуманы: у ім супярэчная пачуццёвасць, яго немагчыма ўявіць зрокава. Не звязана з папярэднім апісаннем і вобразная характарыстыка **задуменныя**, бо гэтая якасць звязана з абазначэннем псіхалагічнага стану і патрабуе асацыятыўнай сувязі з іншымі, ужытымі ў вобразна-пераносным значэнні словамі.

Каб выправіць адзначаныя неадпаведнасці, трэба зрокава ўявіць апісанне, стварыць гарманічны яму вобраз:

**Восень шчодра адарыла бярозы мядзяным уборам...** або **Восень залатым кужалем заткала лісце бяроз...** Кожны можа ўявіць і вобразна апісаць залатую восень па-свойму. Галоўнае, каб арыгінальнасць выказвання ствараласа жывым пачуццём і ўнікліввым спасціжэннем прыроды і чалавека. Слоўнае выражэнне думкі пры гэтым павінна падпарадкоўвацца законам эстэтыкі, адпавядаць моўнай традыцыі. Такімі асаблівасцямі валодае апісанне восені ў дзённікавых нататках публіцыстычнага гучання, названых Васілём Віткам "Чатыры старонкі календара" (1974). У іх вобраз жаўталістай ліпы з'яўляецца яркім увасабленнем аўтарскага бачання, сродкам раскрыцця глыбінных філасофскіх высноў пра чалавека, прыроду і святло натхнення:

**"Жаўталістая ліпа, як ліхтар, гарыць перад маім акном.**

**Нават прыцемкам, калі не відны ўсе іншыя дрэвы, яна свеціць мне з восеньскай імглы.**

**Зірнеш — і нешта радаснае і трывожнае аднача́сна — поўніць настрой.**

**Добра, калі перад вачыма — святло.**

**Дзякуй табе, залатая ліпа, добры агеньчык залатой восені!"**

**Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"**

*Валянціна ВЫХОТА,*
*кандыдат педагагічных навук*

# Коласавы зернеткі

## (Працяг артыкула пра словы з коранем *-шкод-*)

*Бо суд "праўдзівы", суд "ласкавы"*
*Паноў за здзекі не карае?*
*І хто цябе тут падтрымае?*
*Каму паскардзіцца і дзе?*
*Хто гэту крыўду адвядзе*
*І трохі згладзіць* ***перашкоды?***

**Преграда** перашкода (РБС)

**Препятствие** перашкода (РБС)

преграда Hindernis n (тж. перен.) (РНС)

препятствие Hindernis n (РНС)

сгладить перен. Hindernisse aus dem Weg schaffen [räumen] (РНС) Hindernis n, ein Hindernis meistern перен. преодолеть препятствие; ein Hindernis überschreiten [überwinden] преодолеть препятствие (тж. воен. і перен.) GDRW).

*І мара йдзе ў ажыццяўленне?*
*Цяпер няма назад адходу!*
*Скідай з дарогі* ***перашкоду,***
*Ні перад чым не запыняйся*
*І з гэтай спадчынай скітайся.*

Hindernis n (перен.) j-m Hindernisse aus dem Wege räumen устранять препятствия (с чьего-л. пути) (GDRW)

Як бачым, у нашай мове ўжыванне слова *перашкода* ў спалучэнні іншымі словамі мае адметныя нюансы: *сгладзіць перашкоду* і *скідаць з дарогі перашкоду*. (У нямецкай мове гэтае не заўважана.)

*Дзе гэта сіла, дзе моц тая*
*Што* ***перашкод*** *сабе не мае*
*І ставіць зразу ўсіх на ногі,*
*Вядзе на вольныя дарогі*
*І свет прасторны адчыняе?*

Якуб Колас вуснамі сваіх герояў адказвае, што неабходна дзеля гэтага:

*— Дзве рэчы трэба мець, каханы!*
*Адну рэч — розум выхаваны*
*Другая рэч, Антось харошы,*
*Таксама трэба мець і грошы.*

У гэтай сітуацыі, на думку Антося, сіла і моц у "розуме выхаваным" і ў грашах. Параўнайце: der Verstand und das Geld überwinden alle Hindernisse.) Er überwindet alle Hindernisse. Он преодолевает (преодолел) все препятствия (DRS).

*Дзед Юрка дзядзьку паважае*
*І да яго прыхільнасць мае:*
*Антось не знае такой моды*
*Рабіць у рыбе* ***перашкоды,***
*І глупства ён рабіць не стане,*
*І ў венцер дзедаў не загляне.*

**Перашкода** 2. перан. Тое, што перапыняе якое-н. дзеянне, затрымлівае ажыццяўленне чаго-н.; цяжкасць (ТСБМ). **Перашкода** рабіць перашкоды чинить препятствия (помехи) (БРС); помеха Störung f (РНС); eine unliebsame Störung (WDG).

Іншае значэнне слова *перашкода* заўважана ў наступных радках:

*Але й дзяўчаты язык маюць*
*І востра хлопцаў падсякаюць,*
*Не робяць жартам* ***перашкоды.***

Не рабіць перашкоды — дазваляць, ням. erlauben.

**Шкода**. Ням. Schade (n) m с.-в.-ням. schade, ст.-в.-ням. scado, гоц. skaþis. Дзеяслоў schaden 'шкодзіць', с.-в.-ням. schaden, ст.-в.-ням. skadōn, -ēn, гоц. skaþjan, skōþ. Акрамя з герм., дакладна параўноўваецца з грэц. askedes 'няшкодны, непашкоджаны'. Прэдыкатыўны прыметнік schade /bedauerlich (сумны, прыкры) сфарміраваўся ў с.-в.-ням. час. Корань *skēth-: *skәth-: *skōth-, schädigen' (шкодзіць).

**Да 400-годдзя Берасцейскай уніі**

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Уніі і катаклізмы гісторыі Рэчы Паспалітай і ВКЛ

Дынастычны саюз быў настолькі слабы, што парушэнні і спыненні яго дзейнасці былі даволі частымі. Гарантыяй гэтай дынастычнай уніі з'яўляўся сам дом Ягелонаў, калі пасады караля польскага і вялікага князя літоўскага займала, як правіла, адна асоба.

Падпісанне Люблінскай уніі 1569 года было абумоўлена асобай самога караля Жыгімонта Аўгуста, яго тонкім дыпламатычным характарам італьянца (па маці, каралеве Боне, у ім цякла кроў фларэнційскага роду Медзічы) і прабеларускімі сімпатыямі, нагадаем, што яго другой, так каханай жонкай была прадстаўніца буйнога княжаскага роду Радзівілаў Барбара, удава Гаштольда.

Пад уплывам Рэфармацыі асабліва пашырыліся розныя пратэстанцкія вучэнні, часамі даволі ерэтычныя, напрыклад, сацыяне і антытрынітары, і для ўсталявання чысціні каталіцкай веры былі запрошаны езуіты. І ўсё ж каталіцызм як пануючае веравызнанне цяжка ўвaходзіў ва ўжо адзіны нацыянальна-дзяржаўны механізм. Так, святар рымскай царквы (усходнеславянскага паходжання) Станіслаў Аржахоўскі пачаў прапагандаваць ідэю шлюбу духоўных асоб (згодна традыцыі візантыйска-грэцкай царквы) і сам ажаніўся. Касцёльныя ўлады падалі на яго ў суд як на ерэтыка, але ўлады свецкія Аржэхоўскага апраўдалі. Прымас царквы Уханскі рабіў пэўныя захады да стварэння незалежнай ад Рыма (на ўзор англіканскай) нацыянальнай царквы. Яго ідэю падтрымаў і развіў вучань Меланхтона, пратэстант па веравызнанні, Андрэй Фрыч Мадржэўскі (1503-1572), аўтар знакамітага трактата "De republica emendanda" (1551), ён прапаноўваў зблізкэнне з усходнім хрысціянствам (з абавязковымі шлюбамі святароў, прычасцем двума відамі, багаслужэннем на народнай мове).* Пад уплывам трагічных падзей Варфаламееўскай ночы ў Францыі 1573 года прымаецца вольная элекцыя, якая забараняла ўціск, праследаванні і катаванні на глебе веравызнання.

Але езуіты ўмацавалі сваё становішча ў польска-беларускім грамадстве. Іх аўтарытэт не паменшыўся нават пасля ўцёкаў Генрыха Валуа, будучага французскага караля Генрыха III, з Польшчы. Наступны кароль венгр Стэфан Баторы, пратэстант па веравызнанні, з-за моцнай палітычнай вагі езуітаў нават мяняе свае рэлігійныя сімпатыі.

Вынікі панавання Жыгімонта III Вазы, калі ён, як іспанскі кароль Філіп II, апантаны апалагет каталіцызму, у саюзе з Аўстрыяй вяваў супраць чэхаў і венграў у час 30-гадовай вайны, ён сапсаваў адносіны праз прэцэдэнты самазванцаў у "смутныя часы" з Масковіяй, страціў Рыгу і Ліфляндыю праз інтрыгі са Швецыяй, спрыяў адпадзенню ўкраінскага казацтва ад Кароны,— вынікі панавання былі сумныя і горкія. Забарона караля, які быў таемным хаўруснікам Салімана і Селіма II, казацтву ваяваць супраць туркаў і татар ставіла пад пагрозу існаванне Запарожскай Сечы. Пасля правалу плана Уладзіслава IV адносна вайны з Турцыяй пачынаецца казацкае паўстанне на Украіне на чале з Багданам Хмяльніцкім. Пры апошнім з Вазаў Яне-Казіміры працэс разбурэння аб'яднанай дзяржавы набывае асабліва відавочныя рысы. У саюзе з войскамі маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча казацтва Хмяльніцкага захоплівае Вільню і Менск, пачынае асаду Львова. У гэты час Штумсдорфскага перамір'я са Швецыяй гетман ВКЛ Януш Радзівіл, адчуваючы пагрозу як польскай, так і расійскай агрэсіі, парывае Люблінскую унію з Польшчай і ад імя Княства заключае унію са смелым швецкім каралём Карлам-Густавам. І толькі партызаны і Тышавецкая канфедэрацыя ратуюць Польшчу.

Згодна Гадзяцкай дамовы пры мястэчку Выгоўскім (1658) прававслаўю надаюцца роўныя правы з каталіцызмам, унія скасоўваецца, у сенат уводзяцца праваслаўныя епіскапы, канфесійна-нацыянальныя абмежаванні для казакаў і аcтатніх усходніх славян анулююцца.

* *Ламанский В. Два чтения за 8 и 26 февраля 1874 года въ Петербургскомъ Отдѣленіи Славянскаго Комитета объ Модржевскомъ. Голосъ, 1874. №№ 44, 60.*

**Мікалай Крыўко — беларушчына.**
**Алена Шчука — англійшчына.**

# Слоўнік сінонімаў

**ПОЦЕК** (струменьчык чаго-н. вадкага на якой-н. паверхні) — *Мана, правакацыя! — выкрыкнуў Пшыборскі, выціраючы густы пот, які поцекамі расплываўся па твары і шыі* (Лынькоў), **РАГА** *Снег прыстае да шыбаў акон мутнымі кроплямі, расцякаўся рагамі па шкле* (Бядуля).

**ПОЦЯГАМ** (цягнучы, валочачы па зямлі) *Раўчук так абмялеў, што мы, параіўшыся, вырашылі цягнуць лодку поцягам па зямлі* (Ігнаценка), **ВОЛАКАМ** — *Пакурым,— яшчэ ўсё спакойна вырашыў Максім,— а потым усцягнем свой карабель на гэтыя клавішы. Па спосабу продкаў — волакам* (Брыль).

**ПОЧЫРК** (характар, манера напісання літар) *Своеасаблівым уборыстым, але даволі выразным почыркам спісаны старонка за старонкай у агульных сшытках і самаробных запісных кніжках* (С.Александровіч), **РУКА** чыя або якая (чыя-н. індывідуальная манера напісання літар) *Я на канверце пазнаў сябраву руку. Пакінем убаку падабенства рукі, якое пацвярджаецца параўнаннем аўтографаў Ельскага і надпісаў, зробленых на кнізе* (Лужанін).

**Почырк**. Як і ў беларускай мове, у англійшчыне знаходзім два сінонімы: **handwriting** (літаральна "рука + пісанне") і **hand**. Цікава адзначыць аналагічнае метанімічнае ўжыванне ў гэтым сэнсе бел. **рука** і англ. **hand** (таксама "рука").

**ПОШУК** (дзеянне, спроба знайсці каго-, што-н.) *Доўгія пошукі сям'і не далі вынікаў, але ён* [Апанас] *знайшоў сястру і яна прыехала да яго* (Дуброўскі), **РОСШУК** *Пасля энергічных росшукаў цётка Ганна знаходзіла-такі ўрэшце свайго "супастата"* (Лынькоў), **РАСШУКВАННЕ** і **РАСШУКАННЕ** *Прыняць усе меры па расшукваннні (расшуканні) дзіцяці, якое прапала*, **АДШУКВАННЕ** і **АДШУКАННЕ** *Адшукванне каштоўных рукапісаў у архівах. Коласаўскім пяром "душа вадзіла" і пры адборы фактаў, і пры адшуканні формы іх адлюстравання* (Каўрус).

**Пошук**. Агульнаўжывальным словам з гэтым значэннем у англійшчыне з'яўляецца назоўнік **search**. Яго сінонім **quest** мае кніжны характар і ўжываецца з дадатковым сэнсам "доўгі пошук, звычайна абстрактных рэчаў" (такіх, як праўда, веды і да т.п.).

**ПОШЧАК** (дробны стук) *Цяжка сабе ўявіць наш веснавы беларускі лес без гэтага барабаннага пошчаку чырвонагаловых дзятлаў* (Ігнаценка), **ДРОБАТ** *Дробат ног. Барабанны дробат.*

**ПРА** прыназоўнік з він. скл. (ужываецца пры абазначэнні прадмета размовы, думкі, пачуцця) *Падрабязна распытвала Ульяна пра Агрыпініну службу, жыццё, заработак, пра выхадныя дні* (Колас), **АБ** з месн. і (рэдка: дыялектнае) з він. скл. *Аб красуні сінявокай сніў і марыў і ўздыхаў* (Колас). *Аб першую чарку ёсць спрэчка, аб пятую няма* (прыказка), **ЗА** з він. скл. (ужываецца пры абазначэнні прадмета гаворкі, сведчання і пад.) *А ўсё гэта, разам узятае, гаварыла за пашырэнне, за далейшае развіццё той справы, пачатак якой клаў Букрэеўскі паход сумесна з партызанамі* (Колас). *Адлегласць між слядамі гаварыла за тое, што чалавек, пакінуўшы гэтыя сляды на снезе, бег шпаркім бегам* (Колас), **ПРАЗ** з він. скл.; дыялектнае *Потым сталі праз вяселле гаварыць. Спявалі завеі. Праз лёс наш сірочы* (Колас).

